*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 19(353) 20 ТРАЎНЯ 1998 г.

## ТБМ засудзілі.

13 траўня Менскі абласны гаспадарчы суд разгледзеў справу па зыску ЖРЭА Партызанскага раёна да Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны за запазычаннасць па арэнднай плаце за сядзібу ТБМ па адрасу г. Менск, вул. Румянцава. 13.

Паседжанне вяла суддзя Марына Амбражэвіч. ТБМ у судзе прадстаўляла сакратар ТБМ Людміла Дзіцэвіч.

Суд быў хуткі і не справядлівы. Прысуд па верхняй планцы. На працягу двух тыдняў ТБМ павінна вызваліць памяшканне па вул.Румянцава, 13, а таксама выплаціць на карысць ЖРЭА Партызанскага раёна 540 мільёнаў рублёў з адтэрміноўкай на пяць месяцаў.

Гэта абазначае, што ў Таварыства Беларускай Мовы ўзнікаюць вялікія арганізацыйныя цяжкасці. Некуды трэба перамясціць маёмасць, бо праз два тыдні яе проста могуць выкінуць на вуліцу. Таварыства пазбаўляецца рахунка. Рахунак будзе пастаўлены на картатэку і ўсе грошы, якія туды паступяць будуць аўтаматычна пералічвацца на рахунак ЖРЭА.

Таварыства мае варыянты далейшых дзеянняў. Пра іх рэалізацыю ў наступных нумарах.

## Шаноўныя прыхільнікі беларускай мовы.

6 чэрвеня адбудзецца паседжанне Рэспуб-ліканскай Рады Таварыства Мовы імя Францішка Скарыны. Адным з пытанняў будзе пытанне "Аб газеце ТБМ "Наша слова".

Аднаўленая газета ўжо існуе сем месяцаў. Ад нумара да нумара нешта ў ёй мяняецца, удасканальваецца. Створана больш - менш стабільная рэдакцыя, прынамсі рэдактар і наборршчыца цалкам сталыя, адпрацавана сетка распаўсюджання. Усе раёны Беларусі маюць газету ў шапіках "Белсаюздруку". З горам - напалову працуе сістэма вяртання грошай за прададзеныя газеты. Арганізавана падпіска, мы не паднялі цану на другое паўгоддзе. Будзе 12 тысяч на месяц. Мы паспрабавалі рабіць шэсць пралос і адмовіліся ад гэтага выключна па тэхнічных прычынах.

Разам з тым.

Мы не змаглі падняць папулярнасць газеты. Вось звесткі за красавік па продажу газеты у Гарадзенскай вобласці :

| Горад | Пастаўлена | Спісана |
|---|---|---|
| Бераставіца | 25 | 19 |
| Ваўкавыск | 150 | 118 |
| Воранава | 25 | 20 |
| Горадня | 250 | 175 |
| Дзятлава | 50 | 37 |
| Зэльва | 25 | 21 |
| Іўе | 50 | 47 |
| Карэлічы | 50 | 40 |
| Ліда | 250 | 101 |
| Масты | 75 | 55 |
| Наваградак | 150 | 110 |
| Астравец | 50 | 5 |
| Ашмяны | 75 | 60 |
| Свіслач | 25 | 20 |
| Слонім | 150 | 120 |
| Смаргонь | 100 | 87 |
| Шчучын | 100 | 81 |

Такім чынам вы бачыце, што пад'ём узроўню падпіскі адбіўся на раскупляемасці газеты ў розніцу. Мы не можам здабыць інфармацыю па іншых абласцях, але трэба меркаваць, што тэндэнцыя тая самая.

У гэтай сітуацыі трэба нешта рабіць. Рэдакцыя газеты просіць усіх сяброў ТБМ і асабліва сяброў Рэспубліканскай Рады да 6 чэрвеня падумаць над тым, як падняць папулярнасць газеты, бо мы дакладна ведаем, што тыя матэрыялы, якія друкуем мы не надрукуе ніхто, але мы не ведаем, як гэтымі матэрыяламі зацікавіць больш шырокія слаі грамадства.

Мы гатовы прыняць ўсе прапановы: ад "замяніць рэдактара" да " паставіць коску ў калантытуле".

Свае прапановы вы можаце накіраваць у газету, або выказаць на радзе.

Але !

Не застаньцеся абыякавымі.

***Станіслаў Суднік.***

## Чытайце Міколу Ермаловіча

Часопіс "Маладосць" у № 1,2 пачаў друкаваць працяг кнігі выдатнага беларускага гісторыка Міколы Ермаловіча **"Старажытная Беларусь".**

Разглядаецца Эпоха Рэчы Паспалітай.




## Ёсць лідскі "Байкер — клуб "

У Лідзе ўтвораны "Байкер - клуб". 9 траўня 20 матацыклістаў выехалі ў горад, дзе былі затрыманы міліцыяй . 9 чалавек пазбаўлены правоў на 3 месяцы.

Цікавасць "Нашага слова" да лідскіх байкераў у тым, што працоўная мова клуба беларуская.



**Байкеры стартуюць**



**Байкеры, пакараныя за першы выезд**

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

А са знікненнем беларускай мовы непазбежна надыдзе і этнічная смерць беларускай нацыі.

*Час падбіваць "бабкі"*
*Леанід Лыч. НВ 6.05.98г.*

**Нехрысці ў храме.**

*— Плевать мне хателось на вашу мову. Читайте на том языке, на катором говорит президент! Мы признаём только русский язык!*

*" Абурэнне студэнтаў"*
*П.Касцюковіч. НВ 6.05.98г.*

**Прэзідэнты рана ці позна мяняюцца, мова — застаецца толькі вельмі шкада, што ў тутэйшага люду, а тым болей некаторых прадстаўнікоў моладзі ўзнікаюць такія думкі. Пэўна, калі зменіцца прэзідэнт, яны са сваёй беларускасцю пабягуць паперадзе тых, хто сёння ідзе ў калонах апазіцыі.**

І калыскай любові да роднай мовы — як несмяротнай душы народа — павінна быць школа.

***З выступу В. Зуёнка***
***на з'ездзе пісьменнікаў***
***ЛіМ № 19***

*Мы, яшчэ як след не сфарміраваўшыся і не аб'яд-наўшыся, спяшаемся зноў размыць свае граніцы. І ўвёўшы двухмоўе, рпаступова адракаемся ад роднай мовы. А ці можам мы стаць цывілізаванай адзінай нацыяй, згубіўшы матчыну мову?*

***Барыс Стральцоў***
***ЛіМ № 18***

Два меркаванні на адну тэму:

1) Нават нацыяналісты пагардліва адносяцца да беларускага акцэнту і, бачна, не таму, што яны такія прыхільнікі беларускай мовы, а таму, што ў іхняй падсвя-домасці ўжо закладзены адносіны да беларускага як да нечага другога гатунку. На мой погляд, гэта адзін з многіх вынікаў вынішчэння беларускасці, з мэтай абразіць усё беларускае, нават акцэнт зрабіць другога гатунку.

Для адраджэння беларускасці, пашырэння выкары-стання беларускай мовы трэба зрабіць моднай яе і нават і акцэнт, так бы мовіць, трасянку.

***Павел Круковіч***
***Наша ніва № 8***

*Такім чынам, шлях ад трасянкі да беларускай мовы, як, зрэшты, і да расейскай, адрэзаны, бо яна парушае фанетычную, лексічную і арфаграфічную еднасць мовы. Паводле сваёй існасці трасянка з'яўляецца моўным вычварэннем, таму казаць аб яе значнасці як каталізатара пераходу да беларускай мовы нельга.*

***Трасяніна з-за Трасянкі.***
***Андрэй Аляксандраў***
***Наша Ніва № 8***

## У скарбонку нашай культуры.

У бібліятэцы Беларускага універсітэта культуры з 1993 года распачата выданне серыі бібліяграфічных паказальнікаў "Дзеячы навукі і культуры Беларусі", прысвечанай выдатным вучоным, якія працуюць ва Універсітэце культуры.

У гэтай серыі выйшлі наступныя бібліяграфічныя паказальнікі: Мікалай Міхайлавіч Грынчык (Мн.,1993); Анатоль Пятровіч Грыцкевіч (Мн.,1994); Юлія Міхайлаўна Чурко (Мн., 1998); Васіль Емельянавіч Лявончыкаў (Мн., 1998).

Сёлета ў гэтай серыі выйшаў чарговы, пяты бібліяграфічны паказальнік, які прысве-чаны прафесару кафедры бібліятэказнаўства Лілеі Адамаўне Дзямешка. У паказальнік уключаны не толькі навуковыя працы, створаныя вучонай з 1974 па 1997 год, але і яе выбраныя вершы. Паэтычныя творы Лілеі Дзямешка прасякнутыя любоўю да маці, да роднай зямлі, да беларускай мовы.

### Цудоўнае слова

Надзея — цудоўнае слова,
Якое існуе ў нашай мове,
Яна нараждаецца першай,
Яна ўзрастае на пожні,
Яна памірае апошняй.

Жыве ў нашых сэрцах
надзея,
Што лепшымі стануць падзеі,
Што сонца засвеціць
у аконца
На роднай, на мілай
старонцы,
Што мудрымі зробіць
людзей,
Якія не трацяць надзей.

***Л.Доўнар***

# 115-я школа

У СШ № 115 г. Менска ўсяго 12 беларускамоўных класаў. У школе праводзіцца пэўная работа па выхаванню нацыянальнай свядомасці ў вучняў. Дзейнічае гурток выразнага чытання (Адк. Анімаховіч Л.В.), курсы "Сучасная беларуская мова. Асноўныя арфаграфічныя, арфаэпічныя і пунктуацыйныя нормы". (Адк. Палуян А.С.). У 1997 / 98 навучальным годзе вучні школы прымалі ўдзел у раённай алімпіядзе па беларускай мове, дзе вучаніца 10 "А" класа Нісуля Анастасія заняла 2 месца (настаўніца Палуян А.С.). У гарадскім конкурсе "Беларусь маімі вачыма" гэтая ж вучаніца заняла другое месца ў раённым конкурсе са сваім вершам "Якой я бачу будучыню сваёй Бацькаўшчыны".

У школе існуе добрая традыцыя наведваць тэатр імя Я. Купалы, дзе вучні знаёмяцца з класікай і прэм'ернымі спектаклямі, чуюць беларускае сцэнічнае слова. Пасля прагляду спектакляў ідзе абмеркаванне ўбачанага на ўроках бел.літаратуры і пасля ўрокаў, дзеці пішуць водгукі. У гэтым годзе 8-класнікі з радасцю глядзелі "Ідылію" Дуніна-Марцінкевіча.

Традыцыйныя ўрокі і сустрэчы ў музеях. На працягу гэтага навучальнага года наведалі музеі М. Багдановіча, Я. Купалы, Я.Коласа, музей гісторыі беларускай літаратуры.

Ва ўрочны і пазаўрочны час дзяцей вучаць народным звычаям, традыцыям, святам. Так, вучні сабралі матэрыял пра Каляды, Вялікдзень. Для старшакласнікаў на базе бібліятэкі імя Цёткі былі арганізаваны сустрэчы з маладой беларускай паэтэсай Таццянай Лапцёнак. Многа для нацыянальнага выхавання робіцца настаўнікамі музыкі. Дзейнічаюць фальклёрныя гурты, развучваюцца беларускія народныя песні, праводзяцца інсцэнаваныя святы.

*Менск 115-я школа Першамайскага р-на.*
*Настаўніца беларускай мовы і літаратуры* ***Палуян Аляксандра Сцяпанаўна.***
*Дырэктар школы* ***Крывіцкая Ірына Аляксандраўна.***

## Што паспрыяла маёй нацыянальнай самасвядомасці.

Бацькі мае нарадзіліся і выраслі ў Беларусі, і ў пашпарце напісана, што яны беларусы. Але я ў дзяцінстве ніколі не чула пра Беларусь, толькі калі прыязджала да бабулі ў Барысаў, я чула нейкую абсалютна іншую гутарку.

Бацька мой вайсковец, "савецкі" падпалкоўнік. Таму нарадзілася я ў Празе, потым мы жылі на Далёкім Усходзе, пасля — у Маскве. І толькі ў 1991 годзе прыехала я ў Менск. Памятаю, што, калі я прыйшла ў школу, у 5 клас, першым урокам была беларуская літаратура, і я, мабыць, усё жыццё буду памятаць твар Максіма Багдановіча таму, што гэта быў першы беларускі пісьменнік, з якім я пазнаёмілася. Пасля я не стала, на жаль, вучыць беларускую мову ( пісала дыктоўку на адзінкі з мінусам).

І толькі недзе ў 7-ым класе на мяне звярнула ўвагу мая настаўніца, Лазоўская С.А., якая выкладала беларускую мову і літаратуру, яна і прапанавала мне быць рэжысёрам у п'есе Дуніна - Марцінкевіча "Пінская шляхта". Вось тут, мабыць,і пачаліся мае першыя крокі да самасвядомасці.

Прайшоў нейкі час, і мая настаўніца пазнаёміла мяне з адным хлопцам звалі яго Шчацько Арцём. Мы пасябравалі, але да таго часу мяне цікавіла ўсё расейскае больш, чым беларускае: і мова, і культура, і музыка ...

І вось аднойчы мой сябар (мне тады было 15 г) пачаў размаўляць са мною па-беларуску. Спачатку гэта была быццам гульня. Мы выпраўлялі адзін аднаго, я ж не жадала выглядаць горш за свайго суразмоўцу, пачалося спаборніцтва, хто лепш авалодае беларускай мовай. Зараз , калі лічыць па вялікаму рахунку, то можна сцвярджаць, што я да свядомасці прыйшла дзякуючы гэтаму сяброўству.

Аднойчы майго сябра запрасілі на беларускае тэлебачанне на праграму "Чорнае і белае", а тэма перадачы "Беларуская і расейская мова ў беларускім грамадстве". Ён не змог пайсці, і таму давялося мне замяніць яго. І вось што там здарэцца.

Я прыйшла туды такая самаўпэўненая, з намерам абараняць беларускую мову (там яшчэ былі дзяўчаты з Беларускага ліцэя, яны размаўлялі выключна па-беларуску). А я, калі ўжо працавалі камеры, перад самой перадачай загаварыла з дзяўчатамі па-расейску, а чалавек з "расейскага боку" чуў маю гаворку. Ну дык вось ён і вырашыў падставіць нам, беларусам, "палкі ў калёсы". Ён кажа: *"А вось гэта дзяўчына* (І ўсе камеры на мяне !) *размаўляла па-расейску, а зараз яна кажа: беларуская мова, беларуская мова ...*

*Глупства ўсё гэта ! Спачатку хай навучыцца, а потым прыходзіць і крычыць !"*

Гэты выпадак мяне вельмі зняважыў, і з таго моманту я сабе дала слова, што навучуся добра, свабодна размаўляць па - беларуску.

Яшчэ раз хачу вярнуцца да свайго сябра. Мы з ім перайшлі выключна на беларускую мову, і я недзе 28.10.96г. пачала пісаць толькі па - беларуску. І з той хвіліны я ніколі свае асабістыя запісы не пішу па - расейску. Ніколі ! Гэта быў мой другі крок да беларускасці.

Хачу прыгадаць яшчэ адзін момант з майго жыцця, які таксама вельмі паўплываў на маё ўсведамленне нацыянальнай прыналежнасці.

Я з'яўляюся каталічкай, і таму паехала я ў Польшчу на пілігрымку. Хачу сказаць, што рэлігія таксама паспрыяла маёй свядомасці. У касцёле імша ідзе па-беларуску. Мы спяваем песні, молімся на роднай мове. Таму, калі я прыходзіла ў касцёл, то з Панам Богам я размаўляла заўсёды па-беларуску. Але вернемся да пілігрымкі ў Польшчы. Усё праходзіла вельмі добра, я спявала па-беларуску, размаўляла з польскай моладдзю. Але аднойчы да мяне падышоў польскі хлопец і пачаў са мною гутарку пра маю краіну, мову, народ, моладзь, пра свядомасць нашай моладзі, пра палітычнае становішча. Для яго было проста незразумела, чаму, акрамя мяне, усе, хто прыехаў з Беларусі, размаўлялі па-расейску. Ён проста пачаў зневажаць тых, хто не ведае сваёй мовы. Для яго было не зразумела, чаму мы, жывучы ў Беларусі, размаўляем, як ён сказаў, на камуністычнай мове. І, на жаль, такія размовы адбываліся неадночы. Мне было проста сорамна за мой народ, за маю краіну. Шчыра магу сказаць, што дзякуючы гэтай паездцы я яшчэ больш адчула сябе беларускай. Прыйшоў гонар і пашана да сваёй Беларусі, мовы, культуры, гісторыі.

Прыехаўшы з Польшчы, я пачала дасканала вывучаць беларускую мову, літаратуру, пачала чытаць розную літаратуру па гісторыі Беларусі: бел - чырвона - белы сцяг стаў для мяне сімвалам нашай краіны .

Працавала над сваёй свядомасцю, вырашыла стаць прафесіяналам, каб ніводная расейская папуга не змагла зняважыць мяне, бо ў нашай краіне, на жаль, існуе шмат людзей, якія, не ведаюць пра свой народ нічога і, маючы нізкі інтэлект, дазваляюць сабе зневажаць вяршкі нашага грамадства — нашую інтэлігенцыю.

***Ліза Грэмянок, 115 шк. Першамайскі р-н, г. Менск***

# АСЦЯРОЖНА: "МОВА АРЫГІНАЛА",

## або "Пятая калона" русіфікатараў на старонках беларускіх газет

Гартаючы старонкі "Звязды" за 18 красавіка, зноў гляну на першую: не, словы "Беларуская газета" на месцы. Чаму ж тады штогадовае пасланне прэзідэнта да парламента, пра якое, між іншым, было вядома загадзя, надрукаванае на расейскай мове? Гэта чатыры з васьмі газетных палос. Трэць яшчэ адной старонкі адведзена пад рэкламу на тым жа "великом и могучем". Дый пасланне мітрапаліта Філарэта названа па-расейску — пасхальным, а не велікодным. (Паводле нават самых зрусіфікаваных слоўнікаў "пасха" на беларускай мове азначае толькі "салодкую ежу, якая пячэцца да Вялікадня). З сумам падумалася: ці не збіраюцца з адзінай штодзённай беларускамоўнай газеты зрабіць двухмоўную, як гэта было ў 1925 - 1927 гг.? А то яна нібы бяльмо на воку, няхай сабе невялікае, для тых, хто адчувае нянавісць да беларушчыны.

Згаданае выступленне А. Лукашэнкі суправаджаецца падрадковай заўвагай — апраўданнем: маўляў, яно друкуецца "на мове арыгінала" (тобок па-расейску), таму што "тэкст рэдакцыя атрымала непасрэдна перад здачай нумара". І гэткая недарэчнасць здараецца не ўпершыню. Не кажу ўжо пра расейскамоўную рэкламу, якую можна бачыць у кожным выпуску, уключаючы розныя балансы, справаздачы аб прыбытках і стратах і пад. А я ж, чытач "Звязды" з даваенных часоў, выпісваю яе, каб знаёміцца з газетнымі матэрыяламі, у тым ліку і афіцыйнымі, не на "мове арыгінала" - ад каго б ён не паступіў, — а менавіта на роднай. Такое натуральнае жаданне, трэба думаць, у большасці чытачоў. Таму, пытаю па тэлефоне аднаго з намеснікаў галоўнага рэдактара (ён не назваў сябе), ці не лепей было б апублікаваць тэкст выступлення ў наступным нумары, але ўсё ж па-беларуску? Тым больш, што на расейскай мове яно неадночы гучала 17 красавіка па тэлебачанню і радыё, а на другі дзень на ёй жа павінна было з'явіцца ( і, вядома, з'явілася) на старонках іншых дзяржаўных газет. І, уласна кажучы, у пасланні няма нічога такога, пра што трэба было прачытаць абавязкова перад Вялікаднем.

На жаль, кіраўніцтва рэдакцыі, як вынікае з тэлефоннай размовы, лічыць (ці можа так загадана лічыць?), што самае галоўнае тут аператыўнасць, а мова — справа другарадная. Наконт аператыўнасці мо спрачацца было б не варта, каб пра яе памяталі заўсёды. У нас жа, здараецца, па тры, а то і па чатыры дні запар не выходзяць дзяржаўныя газеты, якія называюцца штодзённымі. Яшчэ горш, калі хуткасць, як у нашым выпадку, дасягаецца за кошт згубы беларускага аблічча выдання. Пра тое, каб у газетах своечасова з'яўляліся афіцыйныя матэрыялы, раней клапаціліся не менш, чым цяпер. Гэта, аднак, не перашкаджала той жа "Звяздзе" друкаваць выключна на беларускай мове даклады і прамовы не толькі мясцовых, але і крамлёўскіх "правадыроў".

Прывяду прыклад з даваеннага часу, калі, дарэчы, узровень тэхнікі сувязі і паліграфічнай прамысловасці быў несупаставімы з сёняшнім. 31 жніўня 1939 года ў Маскве з дакладам "Аб ратыфікацыі савецка - германскага дагавора аб ненападзе" выступіў В.Молатаў. На другі дзень, 1 верасня, яго чыталі ў "Звяздзе" на беларускай мове (гэты нумар захоўваецца ў маёй калекцыі старых газет). Дадам яшчэ, што пасяджэнне Вярхоўнага Савета СССР, дзе выступаў старшыня Саўнаркома, пачалося ў 7 гадзін 30 хвілін вечара. А. Лукашэнка ж звяртаўся са сваім пасланнем удзень непадалёку ад рэдакцыі і друкарні.

У апраўданне спасылаюцца на цяперашні графік выпуску "Звязды", на цяжкасці, звязаныя з перакладам тэкстаў, і г.д. Чаму, аднак, складаюць непрымальныя для беларускамоўнай дзяржаўнай газеты графікі ? Чаму ў БелТА, адміністрацыі прэзідэнта ці яшчэ дзе там не заўсёды робіць у належны час пераклад на мову карэннай нацыі афіцыйных матэрыялаў, прызначаных для публікацыі ? Нарэшце, чаму сама рэдакцыя не надта трывожыцца, каб абвешчаная роўнасць дзвюх моў была сапраўднай, а не ўяўнай? "Звязда", безумоўна, шмат зрабіла дзеля нашага нацыянальнага Адраджэння, але апошнія тры - чатыры гады крок за крокам здае свае пазіцыі, "дастойныя вольнай Беларусі" (выраз у двукоссі — з рэдакцыйнага звароту да чытачоў, надрукаванага 27 жніўня 1991 года).

Мала таго, што значна паменшылася колькасць публікацый у абарону роднага слова, дык яны цяпер яшчэ нясуць на сабе пячаць нейкай недамоўленасці, а то і маўчання. Прынамсі, тыя з іх, якія напісаны супрацоўнікамі рэдакцыі. Сябар рэдкалегіі Сяргей Шаўцоў у агалядзе ("Звязда" 6.03.98г.) водгукаў на артыкул, прысвечаны праблеме стварэння нацыянальнага ўніверсітэта ў Менску, падае выказванне начальніка аднаго з галоўных упраўленняў Міністэрства адукацыі В.Дабранскага. Ідзяю, якую падтрымалі простыя чытачы, чыноўнік называе ... "надуманай". " А раптам, - без сораму працягвае ён, — ўяўрэі пажадаюць мець свой універсітэт, ці паляні, ці татары ? Што гэта будзе ? " Вы думаеце, журналіст даў прынцыповую ацэнку гэтай бязглуздзіцы, патрабаваў, каб сам міністр сказаў сваё слова на гэты конт? Не тут тое было! "Па сутнасці, — выбачлівым тонам заўважыў ён, — меркаванне Валерыя Дабранскага каменціраваць патрэбы няма...". Добра, што старшыня ТБМ Генадзь Бураўкін у артыкуле ("Звязда" 24.03.98г.) "Каб пачулі !.." назваў рэчы сваімі імёнамі. На жаль, цяпер такія вострыя публікацыі пра дыскрымінацыю роднай мовы, як гэта, — вялікая рэдкасць у "Звяздзе". Да слова, міністэрскі службовец атрымаў водпаведзь, якую заслугоўвае, і ад вядомага беларускага гісторыка Леаніда Лыча ў "Народнай волі".

Ці вось Валянцін Жданко, нядаўні сябар рэдкалегіі "Звязды", журналіст не пужлівага дзесятка, надрукаваў у ёй ("Звязда" 10.04.98г.) крытычны артыкул "Раўнапраўе сапраўднае і ўяўнае". Але і ён не набраўся рашучасці, каб паставіць кропкі над "і" у простым пытанні, якое закранае там. Ён справядліва наракае на тое, што ў дні, калі дэпутаты вырашаюць, якім быць закону "Аб мовах", у грамадстве не вядзецца ніякіх дыскусій па гэтай праблеме. А чаму так здарылася, хто тут вінаваты — не сказаў ні слова.Нібы не ведае, што залежыць гэта ад кіраўніцтва Палаты прадстаўнікоў і — хоць і ў меншай ступені — ад рэдактарата парламенцкай газеты, якой з'яўляецца "Звязда". Няма сумнення, што калі б на яе старонках загадзя былі надрукаваныя папраўкі і дапаўненні да закона, дык у іх абмеркаванні ахвотна прынялі б удзел актывісты ТБМ і ТБШ, пісьменнікі, выкладчыкі, студэнты — усе руплівцы матчынага слова. Не абмінулі б тады чытачы і пытання, чаму чынавенства ўсіх рангаў не тоячыся грэбуе моваю свайго народа. Але гэта, канешне, не ўваходзіць у планы заўзятых русіфікатараў.

...Калі А.Лукашэнка яшчэ думаў, якую з дзяржаўных газет зрабіць прэзідэнцкай, дык не выключалася магчымасць, што ёй будзе "Звязда". У такім выпадку рэдакцыя, як паведамлялася ў друку, была гатовая выдаваць расейскамоўную ўкладку, што фактычна пазбавіла б газету яе даўняга статусу. Між тым, "Советская Белоруссия", якой выпала быць галоўным прэзідэнцкім рупарам, добра абыходзіцца без укладкі на беларускай мове. Не друкуюць хоць нейкія матэрыялы па-беларуску і іншыя расейскамоўныя выданні. У той жа час газеты, што здаўна выходзілі на роднай мове, сталі ігнараваць яе, перайшлі на праславутае двухмоўе. Вялікая ж колькасць выданняў толькі фармальна лічыцца двухмоўнымі, а па сутнасці друкуюцца на адным "великом языке". "Мы змяшчаем матэрыялы на мове арыгінала", — гавораць у тых рэдакцыях, маючы на ўвазе расейскую. І робяць яны гэта нібы ў інтарэсах чытачоў, дзеля павышэння накладу і г.д. Што датычыцца роднага слова, дык яно асімілятарам, як кажуць, да лямпачкі.

Такім чынам, "мова арыгінала" стала своеасаблівай "пятай калонай" на старонках беларускіх газет. Што да накладу, дык досвед "Звязды" сведчыць пра адваротнае. Чатырнаццаць гадоў таму, калі яна выдавалася на роднай мове і дзень у дзень дбала пра яе адраджэнне, вытараванне нацыянальнай культуры і вяртанне з нябыту нашай шматвяковай мінуўшчыны, — наклад яе быў самым вялікім за ўсю гісторыю газеты — звыш 200 тысяч асобнікаў. Цяпер жа ён складае менш 90 тысяч, што не далёка ад самых нізкіх накладаў за пасляваенны перыяд.

Сем гадоў таму ў вышэйпамянёным звароце да чытачоў рэдакцыя "Звязды" ( тадышні яе галоўны рэдактар У.Наркевіч і зараз на гэтай пасадзе) выказала спадзяванне, "што афіцыяльныя (так у тэксце - Г.Л ) структуры суверэннай дзяржавы не дадуць загінуць нацыянальнай газеце". Сёння навідавоку : антыбеларускія сілы, якія ўвесь час набіраюць моц, бо дзейнічаюць заадно з уладай, не супакояцца, пакуль не даб'юць апошнюю беларускамоўную не толькі школу, але і газету.

***Генадзь Лагуновіч.***

*( Пра сябе. Былы вайсковы журналіст. Ветэран Вялікай Айчыннай і ўзброеных сіл. Друкаваўся ў "НС" з 1992 года да таго часу, пакуль рэдакцыя знаходзілася ў Менску).*





# Уладавай касой па каранях Беларускасці

### 1. Беларусафобы наступаюць ...

Як стала нам дакладна вядома, навукова-даследчым інстытутам праблем вышэйшай школы (што пры БДУ) распрацаваны прапановы па удасканаленню сістэмы вышэйшай адукацыі. Але так як гэты НДІ — установа ў многім штучная (бо толькі самі ВНУ могуць дзейсна і вынікова займацца даследаваннямі гэтага кірунку), то змест галоўнай прапановы звёўся да забароны вывучэння беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі. Напісана там, вядома, інакш, але сутнасць такая. Для абгрунтавання (у якасці галоўнага аргумента) выкарыстана спасылка на вывучэнне беларускай мовы ў школах. Але ж, па - першае, вывучэнне беларускай мовы ў ВНУ — гэта не паўтор школьнай праграмы, у чым можна пераканацца на прыкладзе БДТУ. Праз некалькі іншую, удасканаленую методыку выкладання ім прадугледжваецца перадача студэнтам пашыраных, нават, тэарэтычных ведаў беларускай мовы з аналітычным улікам профіля кожнай з мноства спецыяльнасцяў ВНУ. У выніку студэнты скіроўваюцца на творчае самастойнае беларускамоўнае мысленне ў адносінах да сваёй спецыяльнасці, што пацвярджаецца абавязковым напісаннем (кожным студэнтам) творчага рэферата, які абараняецца перад групай. А, па-другое, напрыклад, у 2-х мільённым Менску толькі 7,3 працэнта першакласнікаў прыйшлі ў беларускамоўныя класы гэтага навучальнага года. У 10-х жа і 11-х класах школ Менска на беларускай мове вучацца зараз толькі, адпаведна, 74 і 33 вучні. Прыкладна такое ж становішча ў Гародні і іншых нашых гарадах.

Можна, вядома, сказаць, што беларуская мова вывучаецца цяпер і ў расейскамоўных школах рэспублікі. Але ж трэба ўлічваць, што яна разглядаецца там не проста ў якасці замежнай. А як дадатковая, непатрэбная не толькі ў самой школе, але (праз велізарныя намаганні сучасных уладавых структур і ў тым ліку — міністра адукацыі начале з прэзідэнтам) і ва ўсім беларускім грамадстве, дзе яна ўжо практычна пад забаронай. Гэта незвычайная для цывілізаванай краіны з'ява сама сабой прыводзіць да вельмі адмоўных вынікаў на засваенню і веданню беларускай мовы выпускнікамі расейскамоўных школ і класаў Беларусі. І калі пры гэтых абставінах адмяніць вывучэнне беларускай мовы ў ВНУ рэспублікі, то яе выкарыстанне там у навучальным працэсе стане проста немагчымым. У выніку абсалютная большасць выпускнікоў нашых ВНУ не будзе валодаць мовай карэннага этнасу беларускай нацыі, не будзе знаёма з яе самабытнымі асаблівасцямі, духоўнай культурай цэлага народа, стане абыякавай у гэтых адносінах не толькі ўсяго беларускага. Бо нацыянальныя аспекты (пры ўсёй іх вонкавай слабай выразнасці) глыбінна закладзены ва ўсю сутнасць кожнага нармальнага чалавека на генным узроўні і праяўляюцца, нават, праз пакаленні. Яскравы прыклад таму імгненны развал магутнейшай імперыі СССР. І аніякія намаганні яе ўжо не змогуць уваскрэсіць. Аднак перш - наперш забарона вывучэння беларускай мовы ў ВНУ паставіць пад пагрозу знікнення асноў 12-і мільённага беларускага этнасу, яго знішчэння. А гэта ўжо велізарнае наўмыснае злачынства перад усім чалавецтвам. Бо этнасы створаны Богам рознымі не выпадкова. А каб праз спаборніцтва ( у добрым сэнсе гэтага слова) тых рознасцяў забяспечыць існаванне ўмоў для пастаяннага самаўдасканалення ўсяго агульначалавечага грамадства на аснове прынцыпу : праз нацыянальнае — да агульначалавечага, ад агульначалавечага — да нацыянальнага. Гэта зразумела зараз усім больш - менш цывілізаваным краінам. Таму яны робяць усё магчымае для захавання нават самых маленькіх народнасцяў. І свет яшчэ не бачыў прыкладаў, каб улады якой - небудзь краіны, яе міністэрства адукацыі падштурхоўвалі сваімі дзеяннямі знішчэнне асноў карэннага этнасу сваёй дзяржавы.

### 2. Ці дапаможа нам міністр ?

Разгляд названых прапаноў па знішчэнню каранёў беларускай мовы меў рабіцца міністрам адукацыі Стражавым В.І. у першыя дні траўня. Таму ў адпаведнасці з важнасцю адзначанага, яго нечаканасцю і ўтойваннем ад грамадскасці мы звярнуліся да Стражава В.І. з наступнымі пытаннямі-прапановамі.

1. Зразумець, што кожны выпускнік ВНУ рэспублікі павінен дасканала валодаць беларускай мовай, спрыяць яе захаванню і развіццю. І таму пакінуць у навучальных планах усіх ВНУ вывучэнне беларускай мовы без змянення колькасці гадзін, адведзеных на яе зараз.

2. Улічыць, што кожны выпускнік ВНУ рэспублікі павінен ведаць самабытныя асновы глыбіннай культуры беларускага народа. І адпаведна ўвесці ў навучальныя планы гэтых устаноў дадатковую дысцыпліну "Гістарычны аналіз беларускай культуры і літаратуры. Планаваць на яе не менш 30 гадзін.

3. Не спасылацца ў сваіх антыбеларускіх дзеяннях на выніку так званых рэферэндумаў і не прадстаўляць беларусаў самазабойцамі ў этнічных адносінах. Бо ні ў адным з двух праведзеных рэферэндумаў (калі іх можна так назваць) не было пытання "Ці лічыш ты неабходным захаванне і развіццё беларускай нацыі з яе карэннай мовай і самастойнай беларускай дзяржаўнасцю". І адпаведна не было большасці адказаў "не лічу".

4. Спыніць наўмыснае нацкоўванне вучняў і бацькоў супраць беларускай мовы. Зараз яно заключаецца ў паралельным вывучанні з першага класа беларускай і расейскай моў пры іх зыходнай блізасці. І пры тым, што напісанне многіх слоў па - беларуску ўспрымаецца памылковым па - расейску і наадварот. І, вядома, ва ўмовах, калі ў грамадстве маецца ўдушлівае панаванне "великого и могучего русского языка", а таксама адчуваецца падкрэсленая непавага вярхоўных беларускіх уладаў да беларускасці наогул. Адпаведна ўвесці вывучэнне "русского языка" толькі з 3-а класа, калі ўжо ўсталюецца веданне беларускай мовы.

5. Абмеркаваць разгляданыя пытанні з грамадскасцю пры дазволе на свабодныя выказванні ва ўсіх і дзяржаўных сродках масавай інфармацыі.

6. Выступіць са сваімі прапановамі адносна вяртання ў сістэму міністэрства адукацыі як БДУ, так трох іншых навучальных устаноў, штучна ўзвышаных над астатнімі. Бо ў Савеце Міністраў (куды яны зараз аднесены) няма сваёй канцэпцыі адносна вышэйшай адукацыі, не можа і не павінна быць. Таму што яна апраўдана толькі адзінай на ўсю Беларусь. Выдзяленне ж некаторых ВНУ у асобую катэгорыю, іх асобнае фінансаванне з амаль што ўдвая большай зарплатай выкладчыкам раз'ядноўвае іх супольнасць, паніжае адказнасць непасрэдна перад грамадствам, штурхае на дагаджэнне уладам і непавагі да спраў беларускасці.

7. Вярнуцца да практыкі выбараў рэктараў усіх ВНУ іх працоўнымі калектывамі. Гэта будзе спрыяць развіццю дэмакратызму, павышэнню адказнасці кіраўнікоў гэтых арганізацый у сваіх абавязках перад беларускім народам, змяншэнню залежнасці ад сваявольніцтва ўладаў, павялічэнню іх заклапочаннасці аб будучым нашага этнасу, нашай нацыі, нашай мовы, нашай дзяржаўнасці, нацыянальнага інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі.

8. Не мяняць у навучальных планах ВНУ "Гісторыю Беларусі" на "Историю Отечества". Бо "Отечество" для беларусаў ужо некалькі разоў было чужым. Гісторыя ж сваёй краіны адна, як стваральнік і фіксатар падзей, аднесеных на фон агульначалавечых каштоўнасцяў і мэтаў.

9. Усё справаводства свайго міністэрства весці (як па-большасці робіцца ў "міністэрстве статыстыкі і аналізу") на беларускай мове, што адпавядае дзейснаму статусу "закона аб мовах". Адпаведна для ўнутрыдзяржаўнай перапіскі наогул, а з навучальнымі ўстановамі — у асаблівасці, выкарыстоўваць мову карэннага этнасу, гэта значыць беларускую, а не расейскую, як зараз. Гэтым самым не на словах, а на справах выказаць асабістую павагу міністэрства



адукацыі да Боскіх святыняў Беларусі.

10. Усю дзейнасць па ўдасканаленню беларускай сістэмы адукацыі ажыццяўляць на аснове ісціны аб тым, што для здзейснення сваіх дзяржаўных мэтаў Беларусь павінна самастойна ўваходзіць у цывілізаваную агульначалавечую супольнасць са сваім важкім, паступова нарошчваным нацыянальна - інтэлектуальным патэнцыялам.

### 3. Дапаможам самі сабе ...

У гэтых умовах адказ ад міністра Стражава В.І. мы можам не атрымаць зусім. Бо за яго плячыма стаіць постаць няўмольнага па антыбеларускай скіраванасці прэзідэнта Лукашэнкі А.Р. Магчыма - якаясь павярхоўная адпіска з вялікім спазненнем. Адзначаная ж забарона можа адбыцца раптоўна простай згодай міністра з вышэй названымі прапановамі пры афармленні загадам па міністэрству, пастановай урада або указам Лукашэнкі А.Р. Таму мы з велізарнай заклапочанасцю звяртаемся да выкладчыкаў і студэнтаў усіх навучальных устаноў рэспублікі, да ўсіх прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, да ўсіх свядомых грамадзян Беларусі па дапамогу па ўратаванню каранёў беларускасці ўсімі магчымі метадамі аж да пошукаў дапамогі ў сусветнай грамадскасці. У барацьбе супраць нас выкарыстоўваюцца самыя непрыстойныя метады: бязмежная хлусня, злачынныя прыніжэнні беларускай мовы і скажэнні гісторыі, аўтарытарызм улады, зман, раз'яднанне грамадства рознымі прыёмамі, разнастайны ціск. Актывісты - ахвярнікі Таварыства беларускай мовы нешматлікія. Іх магчымасці абмежаваныя. Апазіцыйныя беларускія сілы таксама нешматлікія, раз'яднаныя і ў многім не канкрэтызаваныя. Іх многія прадстаўнікі не толькі не ведаюць, але і ведаць не хочуць беларускай мовы. Таму патрэбна аб'яднанне ўсіх свядомых грамадзян рэспублікі. І калі прагучыць рашучы голас такога аб'яднання аб жаданні ( і праве на тое ад Бога) не толькі "людзьмі звацца", але і БЫЦЬ ІМІ ПЕРАД ТВАРАМ УСёЙ СУСВЕТНАЙ АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧАЙ СУПОЛЬНАСЦІ, то беларускі этнас, беларуская нацыя са сваёй карэннай мовай будуць ўратаваны.

***28 красавіка 1998г.***
***Аляксей Саламонаў,***
***прафесар, старшыня Менскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы.***

## Ці дапаможа школьная рэформа беларускай мове ?

У апошні час вельмі актуальнай стала праблема рэфармавання школьнай адукацыі. Яна была галоўнейшай тэмай абмеркавання на Першым Настаўніцкім з'ездзе, затым прайшлі парламенцкія слуханні. Вызначаны змест, накірункі, тэрміны, сродкі на яе правядзенне. Прэзідэнт у сваім дырэктыўным выступе перад настаўнікамі на з'ездзе гаварыў пра кампутарызацыю школы, дрэннае веданне замежных моў, аб навучанні з шасцігадовага ўзросту, аб падрыхтоўцы педкадраў, аб сельскіх школах, праблеме здароўя дзяцей. Праблему мовы узняў толькі міністр адукацыі В.І. Стражаў і асудзіў "прымусовую" беларусізацыю школы ў пачатку 90-х гадоў і ўхваліў цяперашнюю "стабілізацыю".

Пра нацыянальную асаблівасць школы выказаўся вясною 1997 г. на ІУ з'ездзе ТБМ імя Ф.Скарыны тагачасны старшыня Ніл Гілевіч: "Сёння наша школа павінна быць прыведзена ў большую адпаведнасць з задачай нацыянальнага развіцця, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах. Мова дае магчымасць аб'яднаць людзей у народ дзеля адраджэння нацыі. Іншых шляхоў кансалідацыі, як на аснове сваёй мовы і гісторыі, па сутнасці не існуе"... ("Наст.газета" № 35-36, 1997г.) Гэта разумеюць многія свядомыя беларусы, таму настойліва і звонка гучаць іхнія словы і выступы ў абарону роднай мовы. Толькі такога не чуваць ад прадстаўнікоў вышэйшай улады. Адсюль можна зрабіць выснову, што прэзідэнцкай уладзе нацыянальная щкола не патрэбна.

Аб гэтым таксама сведчыць і крытыка сучасных падручнікаў па гісторыі Беларусі і літаратуры за залішнюю палітызацыю і ідэялагізацыю; удакладненне праграм у адпаведнасці з крытычнымі заўвагамі і выключэнне з іх твораў патрыётаў — паэтаў М. Сяднёва, Н.Арсенневай, Л.Геніюш. Адсюль ідуць дыскрымінацыйныя адносіны да беларускай мовы, хуткае скарачэнне ў гарадах беларускіх школ і класаў. Прытым усё гэта адбываецца з падачы прэзідэнта па ініцыятыве самых беларусаў, іх уласнымі рукамі. Безумоўна, славянскаму аб'яднанню, адзінаму Саюзу Расіі і Беларусі нацыянальная адукацыя не трэба, нацыянальныя рысы і адметнасці з'яўляюцца тормазам...

З інтэрвію міністра адукацыі В.І.Стражава у "Звяздзе" за 14 красавіка мы даведаліся, што Мінадукацыі ініцыявала "Новы паварот у моўным заканадаўстве" і прапанавала ўнесці змены у Закон "Аб мовах у РБ". Праект новых удакладненняў абвяшчае раўнапраўнае ўжыванне дзвюх моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і забяспечвае права выбару атрымання адукацыі на адной з дзяржаўных моў ... Гэта азначае, што пад антынацыянальныя па сутнасці рашэнні рэферэндумаў будзе падведзена такая ж заканадаўчая база і сёняшні прыгнечаны стан нашай мовы будзе замацаваны законам, бо на практыцы ўсюды перавага аддаецца расейскай мове.

Як бачым, школьная рэформа беларускай мове ні ў чым не дапаможа, гэтае пытанне вырашаецца не на карысць нашай Бацькаўшчыны, не ў інтарэсах Беларусі.

***Міхась Пузіноўскі,***
***ветэран педагагічнай працы,***
***г.Ашмяны.***

## Адрачэнне рэдактараў

Адразу супакою чытача: размова ідзе на пра адстаўку рэдактараў, а аб стаўленні іх да роднай мовы. Варта сказаць. Нядаўна рэдактары раённых газет Гарадзеншчыны сабраліся ў Слоніме, каб пагаварыць пра надзённыя пытанні творчых калектываў, абмяняцца досведам. Гэтыя кіраўнікі быццам за беларускасць, і рэдагуюць газеты на беларускай мове. Вось семінар у горадзе на Шчары. Выступаюць Сяргей Прасняк са Слоніма, Яўген Болбат з Бераставіцы, і іншыя "газетныя зубры". І не на роднай матчынай , а на мове міжнацыянальных зносін. Быццам на той сустрэчы прысутнічалі калегі з Пензы ці Волагды і не ўсё зразумелі б па-беларуску.

Вядома ж, на "великом и могучем" гаварылі начальнік управы грамадска-палітычнай інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзімір Амелька, іншыя вертыкальшчыкі. Хоць спадары рэдактары, У.Амелька і іншыя валодаюць беларускай мовай.

Дык у чым справа ? Адкуль такое адрачэнне ? Відаць, шаноўныя калегі, трымаюць, як гаворыць, нас па ветру. Трымаюць, мусіць, раўненне, на рэпарцёраў нацыянальнага тэлебачання і радыё, якія пад кіраўніцтвам Р. Кісяля падчас інтэрвію ўсё часцей задаюць пытанні па-расейску, і на "усебеларускага бацьку" які беларускае слова не хоча вымавіць і ў святочны дзень.

Такая ў нас раўнасць дзвюх блізкіх моў. Адна з іх пануе амаль паўсюдна, а слова карэннага народа загнана на задворкі. Ужываць матчыну мову саромеюцца нават рэдактары беларускамоўных газет, праўцючы ў якіх маюць хлеб і нешта да хлеба і часам ездзяць на легкавушках. Праўда, не скажаш, што на шыкоўных.

***С.Астравец, г.Слонім***

# Моўны дзень маленькага беларуса

Вяртанне да самых пачаткаў беларускай мовы стала неабходнасцю для некалькіх пакаленняў беларусаў. Але як, з чаго пачаць ? Адназначна — з самага сябе. Зараз існуе дастаткова спецыяльнай літаратуры, якая дапамагае нам у самаадукацыі. А вучыцца мы можам сумесна са сваімі сынам або дачкой.

Ужо з самага нараджэння дзіцяці трэба імкнуцца скласці такія ўмовы, каб малое чула вакол сябе беларускую мову, што садзейнічае развіццю пасіўнага слоўніка маленькага чалавека. Далей, паступова словы будуць пераходзіць у актыўны слоўнік. Бацькі, звяртаючыся да дзіцяці, ужываюць беларускую мову.

Развіваючы слыхавую засяроджанасць, маці, нахіліўшыся над дзіцем, размаўляе з ім, часта паўтараючы імя, спявае песенькі:

Люлі — люлі, люляшу,  
Я дзіцятка калышу  
Нітачку звіваю,  
Песенку спяваю.  
Што выведу нітачку —  
Камару на світачку,  
Застапнуцца кончыкі  
Камару на штончыкі (З народнага



Ай, люлі, люлі, люлечкі,  
Прыляцелі гулечкі  
Сталі яны буркаваць:  
— Чым дзіцятка гадаваць ?  
— Пакарміце малачком,  
Саладзенькім піражком (З народнага)

У першыя перыяды першага года жыцця адбываецца станаўленне артыкуляцыйнага апарату дзіцяці. І тут яму неабходна дапамога дарослага, які знаходзіцца побач. У час актыўнага няспання, заахвочваючы малыша да праяўлення рухальнай актыўнасці, вызываем і станоўча — эмацыянальны настрой, праводзячы так неабходную для дзіцяці фіззарадку.

Чытаем: — Раз !  
І я зусім не сплю,  
Фіззарадку я раблю.  
Два !  
Памыцца я іду  
І спяваю на хаду ...  
(І. Муравейка)



Спявала гэтыя словы бабуля, матуля, праспяваю і я свайму сыну (дачцэ):

Кую - кую ножку,  
Паедзем у дарожку,  
Дарожка крывая,  
Кабылка сляпая,  
А ножка малая.  
Тук , тук,  
Па - е - ха - лі !

Пры гэтым ласкава прыстукваючы па пятачцы. А каму невядома "Ідзе каза рагатая", "Лады, лады, ладкі ...", "Ідзе Бай па сцяне". З задавальненнем слухае, вучыцца выконваць простыя дзеянні малеча.

Ужо з ранняга ўзросту прывучаем дзяцей да культурна — гігіенічных навыкаў. І як цудоўна жыць на свеце, калі побач мама, зноў гучыць яе добразычлівы, ласкавы голас:

Коцік прачынаецца — лапкамі ўмываецца.  
Кветка прачынаецца —  
Росамі ўмываецца.  
Ну, а мы з сястрычкаю  
Мыемся вадзічкаю.  
(А. Мясткіўскі).

Лапкай мяккай без вады  
Умываюцца каты.  
Мыюць вушы і насы  
І на спінцы валасы.  
Так як мамы,  
Так як таты,  
Мыюцца і кацяняты  
(А.Кавалюк).



А так мыецца воўк

Станоўча эмацыянальны, дзейсны стан дзіцяці,актыўнасць успрыняцця навакольнага свету залежыць ад правільнай арганізацыі няспання. Мы павінны заахвочваць дзіця прыслухоўвацца да розных гукаў навакольнага асяроддзя, да мовы, адгукацца на голас дарослага з рознай інтанацыйнай афарбоўкай (ласкавай, вясёлай, строгай). Бо менавіта праз інтанацыю ў гэты час, калі дзіця не размаўляе, мы дазнаёмся пра яго адчуванне.

Прадмоўны перыяд развіцця актыўнай мовы. Тут нельга толькі слухаць і назіраць. Абавязкова трэба дапамагчы ! На першым годзе жыцця з'яўляюцца першыя прадмоўныя рэакцыі — гуканне (пасля 3 тыдня ад нараджэння), гулянне ( 3 - 4 мес), лепет ( 5 - 6 мес), а затым і першыя самастойныя словы. Звычайна ў канцы 1 - га года жыцця ў актыўным слоўніку дзіцяці 10 - 14 слоў ( мама, тата, дай, баба, кіса ...) Маці заахвочвае да шматразовага паўтору гукаў: зычных г, к, х (гуканне), напеўных галосных (гуленне), складоў (лепет). Бразготка або званочак дапамогуць выклікаць імкненне прыслухоўвацца да гукаў, адзначыць іх напрамак. Выразам твару дзіця падкажа нам, гучанне якой бразготкі яму больш даспадобы. Насупіўся, звёў броўкі, вось - вось заплача — адкладзём гэтую цацку далей, хай расце, разумнее.

Узялі на рукі, паднеслі да акенца, а там ...  
— Закружыліся сняжынкі  
Нізка — нізка над зямлёй.  
Ціха лётаюць пушынкі  
Незлічонай чарадой.  
Быццам тыя матылёчкі  
Весяляцца не здарма —  
Адамкнула ўсе замочкі  
У небе ім сама зіма.  
(А.Дзеружынскі)



Чэ-чэ, чэ-чэ сарока,  
А дзе была далёка?  
— Была ў ката на таку,  
Малаціла асаку.

Ах ты, мая птушачка,  
Ах ты, шчабятушачка,  
Хараша ты пела,  
Куды ж паляцела?  
(У.Луцэвіч)

Коцік — абармоцік,  
Доўгія вусікі,  
Тоўсценькія лапкі,  
Ходзіць без шапкі.

Цераз плот,  
Цераз плот,  
Жук ляціць у гарод,  
І гудзе, як самалёт.  
(З народнага)



Верабейчык, верабей,  
Шэранькая птушка,  
Не чырыкай на вярбе,  
Не будзі дачушкі.

Настаў час кармлення, і тут маці раскажа верш, праспявае:

Кашу я варыла,  
Не перасаліла,  
Маму, тату і бабулю  
Кашай пакарміла ...  
(Н.Тулупава)



— Еш, мой Саша,  
Смачна каша,  
Пі, сыночак, малако ...  
— Ой, пірог,  
— Ой , пірог,  
Не хадзі ты на парог,  
Насця ў доме жыве,  
Насця ўміг цябе зжуе.  
(М.Чарняўскі)

І вось зноў наступіў час адыходу да сну. Не адзін раз мы кладзём малыша спаць. Дарослы складае спрыяльныя ўмовы для адпачынку маленькага беларуса. А як салодка засынаецца пад маміну песеньку — пяшчотную, мілагучную.

Спі, мой Міша, баю - бай,  
На мяне не пазірай.  
Куры, гусі ўжо заснулі.  
Кліча спаць мяне матуля.  
Спі, мой любы, люлі, люлі.  
(Н.Галіноўская)

Люлі, люлі, люлі,  
Курачкі паснулі  
Толькі пеўнічку не спіцца,  
Ранак ён праспаць баіцца.  
(П.Місцюк)

Села сонейка даўно,  
Трэба дзеткам спаць,  
Не глядзі ты ў акно,  
Трэба вочкі закрываць.

Ціха, ціха коцік спіць,  
Сны салодкія ён сніць.  
— Мур, мурлыча аж да ранку  
Кошка — мама калыханку.  
— Ну заснула хоць бы трошкі,  
Падрамала б мама - кошка ...  
А чаму не спяць матулі ?  
Дзеці кажуць: Мы ўжо чулі.  
Дзецям сон салодкі самы  
Аддаюць заўсёды мамы.  
(Л.Шырын)



*Падрыхтавала выкладчык Лідскага педвучылішча Рудзік Вольга Сяргееўна.*

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*  
ТБМ імя Францішка Скарыны.  
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*  
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.  
*Адрас рэдакцыі:*  
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.  
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*  
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*  
Генадзь Бураўкін — старшыня,  
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,  
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,  
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,  
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.  
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.  
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 18. 05. 98 г.  
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1368.  
***Падпісны індэкс:*** 63865.  
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.